наша свабода
№132(219) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 СНЕЖНЯ 2001 года СЕРАДА
Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 284-36-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Камп'ютэрызацыя калоніяў

Медустановы, што знаходзяцца ў сістэме Камітэта выканання пакаранняў міністэрства ўнутраных справаў, атрымалі па лініі АБСЕ і Праграмы навучання і доступу ў інтэрнэт некалькі камп'ютэраў і адмысловую базу дадзеных. Тут будуць фіксавацца ўсе выпадкі захворванняў асуджаных, што дасць магчымасць выявіць агульную карціну стану здароўя тых, хто знаходзіцца за кратамі. Апрача таго, мяркуецца стварыць некалькі камп'ютэрных класаў для зняволеных падлеткаў.

## Ракавыя наступствы Чарнобыля

У межах сумеснага беларуска-украінска-амерыканскага праекту «Даследаванне рака шчытападобнай залозы ў жыхароў Беларусі і Украіны пасля Чарнобыльскай аварыі» было выяўлена, што гэтая хвароба сярод пацярпелых ад радыяцыі беларусаў сустракаецца ў 5 чалавек на тысячу.

## Помнік «Тарасу на Парнасе»

У Гарадку, што на Віцебшчыне, адкрыўся помнік вядомаму твору беларускай літаратуры — паэме «Тарас на Парнасе». Мемарыяльная кампазіцыя з'явілася тут невыпадкова. Паводле адной з версіяў, аўтарства «Тараса на Парнасе» належыць ураджэнцу Гарадоччыны Канстанціну Вераніцыну.

## У музеі Нацбанку

Абноўленая экспазіцыя адкрылася ў музеі Нацыянальнага банку Беларусі. Гэта прымеркавана да 80-годдзя беларускай банкаўскай сістэмы. 3 снежня 1921 года Саўнаркамам была прынята пастанова аб стварэнні Беларускай канторы дзяржаўнага банку. У гэтым музеі 3 000 экспанатаў. Тут прадстаўленыя грашовыя банкноты, манеты, аблігацыі і ашчадныя кніжкі розных часоў, а таксама скарбы, знойдзеныя ў Беларусі.

## Сямейны авіятарыф

Нацыянальная кампанія «Белавія» на перыяд з 16 снежня 2001 года да 16 студзеня 2002 года ўводзіць для пасажыраў сямейны тарыф. Зніжкі – для сем'яў, якія купяць два ці болей квіткоў. Адно што гэты тарыф будзе дзейнічаць на рэйсы ў тыя краіны, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасцю ў беларускіх турыстаў.

## Выстава лялек

4 снежня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава «Лялечныя хронікі», якая будзе працаваць да Каляды. Тут можна будзе пабачыць самыя розныя лялькі з прыватных калекцыяў.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1570

# Маладыя сацыял-дэмакраты ідуць

Установчы сход грамадскай арганізацыі «Маладыя сацыял-дэмакраты» (МСД) прайшоў 2 снежня ў Мінску. У ім удзельнічалі каля 80 чалавек, якія прадстаўлялі структуры арганізацыі з усёй Беларусі.

Грамадская арганізацыя «Маладыя сацыял-дэмакраты» дзейнічае з кастрычніка 1990 года як крыло Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), а цяпер вырашыла стаць самастойнай структурай. На сходзе быў прыняты статут новай арганізацыі і адбыліся выбары яе кіраўніцтва. На пасаду старшыні балатаваліся тры кандыдаты — Павел Гормаш (ён на чале МСД з 1999 года), Ігар Дудзін і Марына Азаронак. Апошняя лічыцца прыхільніцай большай самастойнасці і незалежнасці арганізацыі ад старшых таварышаў па БСДП (НГ). У выніку галасавання яна і абрана старшынёй МСД (51% галасоў). Гормаш і Дудзін сталі намеснікамі кіраўніка арганізацыі.

У інтэрв'ю БелаПАНу Марына Азаронак сказала, што за мінулыя гады арганізацыя пасталела і адчувае ў сабе сілы самастойна займацца праблемамі моладзі, кансалідаваць вакол сябе тую яе частку, якой блізкія ідэі сацыял-дэмакратыі. Марына Азаронак таксама заявіла, што МСД не адмаўляецца ад супрацоўніцтва з БСДП (НГ).

На працягу аднаго месяца будзе вырашана пытанне аб накіраванні дакументаў на рэгістрацыю арганізацыі «Маладыя сацыял-дэмакраты» ў міністэрства юстыцыі Беларусі.

Генадзь БАРБАРЫЧ

# Паміраюць кіраўнікі БТ

3 снежня каля 11 гадзін раніцы раптоўна памёр 44-гадовы намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі па эканоміцы і фінансах Анатоль Вашкевіч.

Паводле звестак БелаПАНу, Вашкевіч быў шпіталізаваны раніцай з дому з дыягназам «вострая каранарная недастатковасць», але ўрачы аказаліся бяссільныя. За няпоўныя тры месяцы гэта другая смерць кіруючага супрацоўніка НДТРК. 6 верасня, за некалькі дзён да прэзідэнцкіх выбараў, памёр 55-гадовы старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Валерый Скварцоў, які папрацаваў на гэтай пасадзе крыху больш за паўтара месяца.

Дзмітрый УЛАСАЎ

# Лукашэнку паклічуць у суд?

Беларускі кіраўнік мае някепскі шанц стаць сведкам на судзе па забойстве расійскага генерала Льва Рохліна. Як паведаміў у панядзелак Анатоль Кучарэна, адвакат галоўнай абвінавачанай па гэтай справе – былой генеральшы Тамары Рохлінай, ён мае сур'ёзны намер запрасіць на суд Аляксандра Лукашэнку.

Нагадаем, што беларускі кіраўнік неаднаразова казаў прэсе, што ведае пра магчымае забойства Льва Рохліна. Больш за тое, генерала забілі літаральна напярэдадні яго візіту ў Мінск.

Новае судовае разбіральніцтва па забойстве «героя» чачэнскай вайны Л.Рохліна пачалося ў Нара-Фамінскім раённым судзе.

Заканчэнне на стар.3

# Паўэл крытыкуе Беларусь

*У Бухарэсце (Румынія) учора скончылася двухдзённае паседжанне міністраў замежных справаў краінаў-чальцоў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Кіравалі сходам дзейны старшыня АБСЕ, міністр замежных справаў Румыніі Мірча Джаана. Беларусь на форуме прадстаўляў міністр замежных справаў Міхаіл Хвастоў.*




Савет міністраў замежных справаў АБСЕ сабраўся дзевяты раз для таго, каб абмеркаваць надзённыя праблемы, а таксама юрыдычна аформіць пераход паўнамоцтваў старшыні ад Румыніі да Партугаліі. Тэрмін кіраўнічых паўнамоцтваў Бухарэста ў АБСЕ заканчваецца 1 студзеня 2002 года.

Па выніках сустрэчы была прынятая Дэкларацыя міністраў, а таксама шырокафарматны План дзеянняў па барацьбе з тэрарызмам, які атрымаў назву Бухарэсцкага. Мірча Джаана заявіў з нагоды закрыцця сустрэчы, што яна прадэманстравала еднасць усяго АБСЕ.

На сустрэчы ў Бухарэсце выступіў дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл. У сваёй прамове, прысвечанай барацьбе з тэрарызмам, ён закрануў і беларускае пытанне. Вось частка ягонай прамовы, прысвечанай нашай краіне, што перадало радыё «Свабода»: «Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі не адпавядалі міжнародным стандартам. Урад Беларусі праігнараваў рэкамендацыі АБСЕ датычна ўмоваў, якія павінны быць выкананыя, каб выбары былі свабоднымі і справядлівымі. Вельмі шкада, што ўрад Беларусі працягвае дзейнічаць так, што ў выніку краіна застаецца па-за межамі агульнаеўрапейскага палітычнага жыцця... Мы будзем працягваць нашу працу з краінамі-сябрамі АБСЕ, каб падтрымаць развіццё сапраўдных дэмакратычных інстытутаў і моцнай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі».

Апроч таго, учора ў Бухарэсце мусіла вырашыцца пытанне пра новага кіраўніка кансультатыўна-назіральнай місіі АБСЕ ў Беларусі. Сённяшні кіраўнік, амбасадар Ханс-Георг Вік знаходзіцца на гэтай пасадзе амаль чатыры гады і нядаўна выказаўся за сваю замену. Аднак на момант здачы нумару ў друк імя новага прадстаўніка АБСЕ ў Мінску так і не было вядомае. Паводле некаторых звестак, гэта таксама будзе прадстаўнік Германіі, у рангу амбасадара. Дарэчы, днямі Х.-Г. Вік паведаміў, што ягоны пераемнік можа з'явіцца ў Мінску ўжо 10 снежня.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

# Барадзін пахавае беларускі рубель

## *Па ягоным прагнозе – у 2002 годзе*

Дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін не выключае, што ўжо ў наступным годзе ў абедзвюх краінах будзе ўведзены адзіны плацёжны сродак. 3 снежня на прэс-канферэнцыі ў Маскве ён выказаў меркаванне, што адзіная грашовая адзінка будзе ўведзена ўжо «з 2003-га, а, магчыма, і з 2002 году».

На думку Барадзіна, паведамляюць расійскія СМІ, многія праблемы Саюзнай дзяржавы не знаходзяць сёння рашэння «з-за адсутнасці нарматыўна-прававой базы». Гэты недахоп, лічыць дзяржсакратар, павінен будзе ліквідаваць двухпалатны саюзны парламент, выбары ў які плануецца правесці ў наступным годзе.

Тэме маючых адбыцца выбараў будзе прысвечана пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага савету Саюзнай дзяржавы, якое запланавана на 26 снежня.

Барадзін назваў Саюз Расіі і Беларусі «станавым хрыбтом для ўзнаўлення унікальнай эканамічнай прасторы, якой з'яўляўся Савецкі Саюз». На пытанне, ці не перашкодзяць яго працы на пасадзе дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы выклікі на допыты ў пракуратуру Жэневы, Барадзін адказаў: «Я даўно туды не езджу, і ніхто мяне там не ўспамінае».

Аляксей АРЭШКА

# БНФ – свежае кіраўніцтва?

*Дзесяць дзён засталося да моманту правядзення чарговага з'езду руху і партыі БНФ. Пакуль што дакладна невядома месца правядзення, але затое ў мерапрыемства ўжо ёсць свая інтрыга і накал. Канечне, іх наўрад ці можна будзе параўнаць з мінулаз'ездаўскімі, калі ў выніку абсалютнага непаразумення паміж двума крыламі партыі БНФ раскалолася на дзве паловы, адна з якіх новым лідэрам абрала Вінцука Вячорку, а другая, якая стала называцца КХП-БНФ, абрала ранейшага Зянона Пазьняка.*



Але калі ў пазьнякоўскім крыле зараз абсалютная цішыня (адзінае, што прамігнулі асобныя імёны КХПістаў сярод затрыманых абаронцаў Курапатаў), то ў вячоркаўскім выспявае чарговы шквал пераменаў. Шмат сябраў партыі выказваюць сваю незадаволенасць цяперашнім статусам БНФ на палітычным рынку і жадаюць змяніць няўдала, паводле іхняга меркавання, абранае кіраўніцтва. У прыватнасці, незадавальненне выказваецца на адрас Вінцука Вячоркі, які, на думку сябраў руху, шмат якія перадвыбарныя абяцанні 1999 года не выканаў. Альтэрнатывай Вячорку на з'езде паспрабуе выступіць апазіцыйны намеснік Вячаслаў Сіўчык, які разам з групай вядомых экспертаў рыхтуе сваю праграму. Вялікай падтрымкай Сіўчыку на з'ездзе будуць сябры маладзевага крыла БНФ, якіх будзе трацiна на з'ездзе.

Будуць маладыя балатавацца і на пасады намеснікаў. І калі Павел Севярынец намеснікам з'яўляецца і зараз, то іншы кандыдат – дваццацічатырохгадовы Аляксей Янукевіч – заявіў пра свае прэтэнзіі ўпершыню толькі месяцы два таму і адразу пачаў вельмі актыўную передвыбарную кампанію з паездкамі ў рэгіёны.

Каб высветліць і ўдакладніць пазіцыю Янукевіча, мы ўзялі ў яго кароткае інтэрв'ю.

***— Аляксей, што новага будзе прыўнесена ў БНФ, калі вы будзеце абраны на пасаду намесніка?***

— Я планую рэалізаваць некаторыя свае праекты. З аднаго боку, гэта новыя метады працы з людзьмі, паслядоўная мэтанакіраваная праца па канкрэтным стратэгічным плане. З іншага – гэта дынамізм, палітычная ініцыятыва. Арыентацыя перш за ўсё на палітычную партыю, а не на шырокі грамадскі рух, а нацыянальныя каштоўнасці і іх прапаганду ў грамадстве. Ну і галоўнае – перавод сябраў партыі на высокі прафесійны ўзровень замест цяперашняга, больш аматарскага.

***— Наколькі нам вядома, плануецца зноў вярнуць у БНФ пасаду так званага першага намесніка, ці ўваходзіць яна ў вашы планы?***

— Не, я планую стаць звычайным намеснікам, магчыма, па некалькіх кірунках, якімі б я хацеў заняцца ў партыі.

***— У тандэме з кім яшчэ з кандыдатаў на пасаду намесніка вы працуеце?***

— Ні з кім, але пры абранні мяне ў кіраўніцтва, я думаю, спрацуюся з любым. Затое людзі з маёй каманды будуць балатавацца ў Сойм, на пасады кіраўнікоў камісій.

***— Не магу не задаць гэтага пытання: каго з кандыдатаў на пасаду старшыні БНФ вы падтрымаеце?***

— Гэтае пытанне для мяне даволі складанае... Уся рэч у тым, што я лічу, што інтрыга вакол пасады старшыні хутчэй надуманая ў прэсе, чым рэальная, і Вячорка зноў без праблем стане старшынём. Але гэта не значыць, што я падтрымліваю яго на цяперашняй пасадзе.

***— І апошняе пытанне. Што ўсё ж такі можа выратаваць Фронт і вывесці з зацягненага крызісу?***

— Шанцы Фронту, на мой погляд, звязаныя перш за ўсё з прыцягненнем у Фронт студэнцтва. Не будзе моладзі – не будзе і Фронту. А па-другое, трэба знайсці і ўзнавіць кантакт з усімі, каму блізкая нацыянальная ідэя. І толькі так.

Гутарыў Аляксей СТАЎСКІ

# Тэрмінова патрабуецца інвестар

*Заўтра ўрад будзе вырашаць, дзе і як яго шукаць.*

Эканоміка Беларусі неадкладна патрабуе інвестыцыяў у асабліва буйных памерах – называецца нават лічба ў 50 мільярдаў даляраў. Паводле ацэнак экспертаў, калі на працягу некалькіх гадоў індустрыяльная база нашай краіны не абновіцца самым сур'ёзным чынам, то краіну будуць чакаць вялікія эканамічныя непрыемнасці.

Для абнаўлення неабходныя вялізныя сродкі, і ўзяць іх пакуль што няма дзе. Як паказвае практыка, знайсці крыніцы сур'ёзных капіталаўкладанняў унутры краіны занадта цяжка – дзяржава не мае на гэта дастаткова грошай, а прыватнік (які яшчэ не за кратамі і не ў эміграцыі) дзесяць разоў падумае, перш чым укладаць грошы ў Беларусі. Выйсце, здавалася б, простае – трэба шукаць багатых замежнікаў. Але дзе іх узяць?

Як паведаміў прэс-сакратар Генадзя Навіцкага Іван Знаткевіч, заўтра прэм'ер-міністр Беларусі правядзе нараду аб неадкладных захадах па прыцягненні ў Беларусь замежных інвестыцый у 2002 годзе. Гэта значыць, што пытанне пра пошук грошай на развіццё беларускай эканомікі ўжо паўстала рубам.

Чыноўнікі розных узроўняў мяркуюць, што ў іх атрымаецца ў наступным годзе сабраць ад 400 мільёнаў да 1 мільярда даляраў замежных інвестыцыяў. Але на чым базуецца гэтае перакананне, калі за ўвесь гэты год удалося прыцягнуць у Беларусь менш за 100 мільёнаў даляраў замежных грошай?

Нагадаем, дарэчы, што, паводле ацэнкі амерыканскага інстытута The Heritage Foundation, Беларусь мае 148-е месца па ўзроўні эканамічных свабодаў. Гэты паказчык наўпрост звязаны з узроўнем эканамічнай прыцягальнасці нашай краіны.

На мінулым тыдні Беларусь наведваў віцэ-прэзідэнт Міжнароднага агенцтва па гарантаванні інвестыцыяў (МАГІ) Ангус Скрымжу. Гэтае агенцтва з'яўляецца структурным падраздзяленнем Сусветнага банка і, як вынікае з яго назвы, заклікана забяспечваць надзейнасць укладанняў інвестараў. Падчас прэс-канферэнцыі Ангус Скрымжу заявіў, што яго агенцтва не гатовае страхаваць рызыкі замежных інвестараў у Беларусі. Ён удакладніў, што МАГІ можа змяніць сваю пазіцыю ў гэтым пытанні не раней, чым беларускі ўрад правядзе рэформы ў галіне рэгулявання правоў уласнасці, а таксама цэнаўтварэння і падаткаабкладання. «Прынцыповай умовай МАГІ з'яўляецца дакладнае рэгуляванне ў краіне працэсу перадачы правоў распараджэння зямлёй і асноўнымі фондамі. Гэты першы этап рэформаў можа ажыццяўляцца пры падтрымцы Сусветнага банка і іягонага падраздзялення – Міжнароднай фінансавай карпарацыі», – адзначыў віцэ-прэзідэнт МАГІ.

Беларускія ўлады, хутчэй за ўсё, ускладаюць вялікія спадзяванні на прыход расійскага інвестара. Менавіта на іх мусяць быць арыентаваныя апошнія крокі па частковай лібералізацыі зрэгуляванай беларускай эканомікі. Але, з увагі на «славянскую еднасць» і агульную мову, наўрад ці ў кіраўніцтва краіны атрымаецца адольваць расіянаў прыйсці да нас «усур'ёз і надоўга». Практыка паказвае, што звычайна авантурныя расійскія інвестары ставяць перад сабой мэту як мага хутчэй вярнуць укладзеныя грошы, а шматгадовыя маштабныя праекты з нізкапрацэнтнай аддачай іх пакуль не вельмі цікавяць.

Сваю зацікаўленасць у рэалізацыі доўгатэрміновых, але надзейных праектаў, у адрозненне ад расіянаў, звычайна праяўляюць заходнія інвестары. Але за апошнія сем гадоў беларускае чынавенства ўсіх узроўняў зрабіла ўсё магчымае, каб напалохаць «буржуяў». Цяпер урад Генадзя Навіцкага будзе прыдумваць, як вярнуць страчаны давер. Пагладзім, што з гэтага атрымаецца.

Міхась КАРПОВІЧ

# Лукашэнку паклічуць у суд?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У якасці галоўнай абвінавачанай выступае Тамара Рохліна. Судовыя слуханні праходзяць у закрытым рэжыме – у залу паседжання не пускаюць «простых грамадзянаў» і журналістаў, якія, на думку суддзяў, ствараюць «нездаровы грамадскі інтарэс вакол справы». Апроч таго, на судзе могуць быць абнародаваныя звесткі пра асабістае жыццё сям'і Рохлiных.

Як вядома, дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі і кіраўнік «Руху ў падтрымку арміі» Леў Рохлін загінуў у ноч з 3 на 4 ліпеня 1998 года. Ён быў забіты стрэлам у галаву на сваім лецішчы ў вёсцы Клокава. У першы ж дзень пасля забойства 51-гадовая Тамара Рохліна ўзяла віну на сябе. Пра гэта яна заявіла следчым раённай пракуратуры. Але праз пэўны час адмовілася ад сваіх паказанняў, спасылаючыся на тое, што агаварыла сябе з-за пагрозы расправы над астатняй сям'ёй – у супругаў Рохліных былі дачка і сын. Новаспечаная ўдава сказала, што насамрэч забойцамі былі тры невядомыя асобы ў масках. 16 лістапада 2000 году суд Нара-Фамінска асудзіў Т.Рохліну да васьмі гадоў пазбаўлення свабоды, потым у снежні прысуд скарацілі да 4 гадоў. Улетку пасля звароту ў Вярхоўны суд Расіі Судовая калегія па крымінальных справах адмяніла прысуд, вызнаўшы, што следства вялося са шматлікімі парушэннямі.

У чэрвені Тамара Рохліна падала скаргу ў Еўрапейскі суд па правах чалавека, у якой ацаніла маральную і матэрыяльную шкоду, якую ёй нанеслі, у 2 мільёны даляраў. Цяпер яна знаходзіцца пад падпіскай пра нявыезд.

Ірына СТАРЦАВА

# Нарвегію хвалюе Беларусь пасля прэзідэнцкіх выбараў

30 лістапада ў сталіцы Нарвегіі Осла адбылася міжнародная канферэнцыя «Беларусь: што зараз? Беларусь пасля прэзідэнцкіх выбараў'2001». Канферэнцыя была ініцыяваная Нарвежскім Хельсінкскім камітэтам, Нарвежскім інстытутам міжнародных даследаванняў і фундацыяй «Дом правоў чалавека». У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі МЗС Нарвегіі, кіраўнік місіі па абмежаваным назіранні ў Беларусі БДІПЧ АБСЕ Храір Бальян, прадстаўнік беларускай амбасады ў Нарвегіі і Швецыі, замежныя даследчыкі, прадстаўнікі як урадавых, так і няўрадавых арганізацыяў, журналісты. З беларускага боку ўдзельнічалі старшыня БАЖ Жана Ліцвіна, старшыня ГА «Праваабарончы цэнтр «Вясна» Алесь Бяляцкі, каардынатар Хартыі'97 Андрэй Саннікаў і інш.

Гэта ўжо другая канферэнцыя ў 2001 годзе, прысвечаная праблемам Беларусі, якая прайшла ў Нарвегіі. Першая адбывалася ў траўні і мела назоў «Беларусь перад выбарамі», а зараз мэтай канферэнцыі была ацэнка сітуацыі ў краіне пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Перад канферэнцыяй, 29 лістапада, адбылася сустрэчы ў нарвежскім рэйхстагу з дэпутатамі, якія прадстаўлялі розныя палітычныя партыі, а таксама з намеснікам міністра і супрацоўнікамі МЗС, на якіх абмяняліся меркаваннямі адносна сітуацыі ў Беларусі, і хаця разглядаліся розныя палітычныя аспекты грамадскага жыцця Беларусі, высновa была адна: сітуацыя не змянілася ў лепшы бок.

Алесь Бяляцкі адзначае, што цікавасць да Беларусі ў нарвежскім грамадстве паступова расце. На яго думку, нарвежцы не схільныя мяняць курс палітыкі адносна Беларусі і адносіны да легітымнасці ўрада і прэзідэнта.

Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ «Вясна»

# Наяўны продаж не абмяжуюць?

Сістэма безнаяўнага разліку сярод насельніцтва Беларусі за тавары, набытыя на суму 200 даляраў ЗША і больш, у найбліжэйшы час уведзена не будзе. Пра гэта 4 снежня паведаміў міністр юстыцыі Віктар Галаванаў. Паводле яго слоў, «гэта не аднамомантны акт». «Тут трэба добра падумаць і перш за ўсё банкам, каб не было так, што мы атрымалі гэтую пластыкавую картку, а атаварыць яе не можам», – сказаў міністр.

Міністр лічыць «правамернымі» дзеянні ўраду па звязванні наяўнай грашовай масы. Паводле яго звестак, зараз на руках у насельніцтва знаходзіцца значная колькасць грашовых сродкаў і «правамерна, што ўрад хоча неяк увесці такую сістэму, згодна з якой грамадзяне павінны будуць набываць рэчы ў безнаяўным парадку».

Нагадаем, што 30 лістапада намеснік міністра эканомікі Мікалай Зайчанка заявіў, што перавод на безнаяўны разлік усіх гандлёвых пагадненняў і пакупак коштам звыш за 200 даляраў ЗША ўрад мае намер ажыццявіць на працягу наступнага году.

Юрый ПАЦЁМКІН

## СВОЙ ГОЛАС

***— Якія газеты вы чытаеце?***
***— Якім бы вы хацелі бачыць саюз з Расіяй і ці патрэбны ён увогуле?***



**Іван, рабочы:**

— «Народную волю», НАШУ СВАБОДУ, часам «Рэспубліку».

— Я б хацеў, калі ўсё ж будзе саюз з Расіяй, каб ён быў толькі ў рамках эканамічнага супрацоўніцтва.



**Павел, бізнесмен:**

— Чытаю толькі часопісы: «ОМ», *Metropolitan*, жонка чытае часопіс «Лиза».

— Толькі эканамічны.



**Аліна Аляксандраўна, пенсіянерка:**

— Толькі «Комсомольскую правду». На іншае маёй пенсіі не хапае, ды і ў шпіталях я часта ляжу, не да газет.

— У мяне ў Расіі поўна радні і таму для мяне галоўнае, каб мы сябравалі з гэтай дзяржавай. Але каб мы пры гэтым былі самастойнымі.



**Дзяніс, студэнт падрыхтоўчага аддзялення:**

— Ну, хіба толькі «Музыкальную газету», іншым я мала пакуль што цікаўлюся. Я больш у інтэрнэце нешта чытаю, чым у друку.

— Складанае пытанне... На маю думку, Расія ідзе ўжо пакрыху на Захад, і нам трэба разам з імі ісці побач. Але так, каб рана ці позна стаць сапраўднай празаходняй краінай.



**Святлана, працуе ў агенцтве нерухомасці:**

— Я? «Комсомольскую правду», «Из рук в руки» – гэта па працы.

— Я б хацела, каб Беларусь стала адным з рэгіёнаў Расіі, я б была задаволеная.



**Мікалай Ратушэнка, пенсіянер:**

— Я чытаю «Советскую Белоруссию». Толькі! І ніякіх іншых.

— Я, канечне, за тое, каб быў і эканамічны, і палітычны саюз. Гэта ж добра – саюз з Расіяй, вялікай дзяржавай... А вы з якой газеты? «Свабоды»? Дарма я вам інтэрв'ю даваў!



**Кацярына Аляксандраўна, маці васьмярых дзяцей:**

— Я шмат чытаю: «Камсамолку», «Советскую Белоруссию», «Народную газету», «Женский калейдоскоп», часам «Народную волю».

— Эканоміка абавязкова павінна быць у нас агульнай! А калі палітыка – гэта сяброўства, то няхай будзе і палітыка.



**Адам Глёбус, пісьменнік:**

— «Нашу Ніву», я ў яе пішу. А наагул, ведаеш, я не люблю газет. Прынцыпова не люблю. Я лічу, што «Наша Ніва» – гэта не газета нават, а тыднёвік. А газеты штодзённыя я проста не люблю.

— Я адмоўна стаўлюся да гэтага хаўрусу. Ды яго і не будзе.



**Алег Міхайлавіч, рабочы:**

— «Аргументы и факты».

— Я за зліццё Расіі і Беларусі ў адну дзяржаву.



**Лілія Пятроўна, педагог:**

— Беларускага нічога не чытаю. З расійскіх – «Аргументы и факты» і «Камсамолку».

— Катэгарычна адмоўна стаўлюся да гэтага саюза.

Апытанне праводзілі Аляксей СТАЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота).

## ЗАРОБКІ

# Доўг – 10 мільярдаў

Доўг па заработнай плаце работнікам народнай гаспадаркі Магілёўскай вобласці набліжаецца да 10 мільярдаў рублёў. Толькі за кастрычнік сума доўгу склала 7.200 мільёнаў рублёў. Пра гэта было абвешчана 3 снежня на пашыранай планёрцы ў старшыні аблвыканкама Барыса Батуры.

Больш за 4.600 мільёнаў доўгу па кастрычніцкай зарплаце прыпадае на прадпрыемствы сельскай гаспадаркі. Сітуацыю ўскладняе недахоп прадукцыі, якую можна было б прадаць і атрымаць грошы. Набліжаючца да адзнакі ў 1 мільярд рублёў даўгі работнікам прамысловых прадпрыемстваў, камунальнай гаспадаркі, будаўнічай галіны.

Хаця агульная сума доўгу штодзённа скарачаецца, паводле інфармацыі камітэта эканомікі і рыначных адносін аблвыканкама, толькі прамысловцы змогуць поўнасцю выплаціць заробтную плату сваім работнікам да канца гэтага тыдня. Праблема своечасовасці выплаты зарплаты будзе ў цэнтры ўвагі на паседжанні аблвыканкама 4 снежня.

Канстанцін УВАРАЎ



## Новы антыракавы сродак?

У Японіі распрацоўваюць новую методыку лячэння рака печані. Група медыкаў з універсітэта ў Асака заявіла, што імі адкрыты новы метад, які наблізіць стварэнне вакцыны ад недабраякасных пухлінаў і зробіць магчымым іх вынішчэнне на ранняй стадыі развіцця. У хворых ракам, як вядома, аслаблены імунітэт. Часцей за ўсё гэта адбываецца таму, што перастаюць працаваць асаблівыя клеткі, якія павінны адсочваць чужародныя ўтварэнні і даваць імуннай сістэме каманду іх знішчыць.

Вучоныя з Асакі вырасцілі гэтыя самыя клеткі і разам з бялком інтэрлейкінам-12, які таксама ўдзельнічае ў працы імунных механізмаў і ўжываецца ў анкалогіі, перасадзілі лабараторным мышам, якія хварэлі на рак печані. У выніку ў трох з васьмі доследных арганізм перамог хваробу самастойна, у астатніх пухліна паменшылася ў шэсць разоў.

**Эльза КУРЛОФ**

КАНФЕСІі

## Патрыярх паспытаў сябе ў рэкламе

Мноства тэлегледачоў адчулі немалое здзіўленне, калі ў праграме дзяржаўнага расійскага тэлеканала пабачылі рэкламны ролік, прысвечаны вядомаму «ЛУКОЙЛу», дзе прадстаяцель маскоўскай патрыярхіі спецыяльна зняўся ў атачэнні кіраўнікоў кампаніі на чале з яе прэзідэнтам Вагітам Алекпeравым. Болей за тое. На фоне пакрытага золатам іканастасу з выявамі святых былі зняты буйным планам патрыярх Аляксей II, які паведамляў мільёнам вернікаў вось што: «Мы ўдзячныя «ЛУКОЙЛу» за яго падтрымку многіх праектаў РПЦ, накіраваных на адраджэнне таго, што было зруйнавана ў мінулым, у гады барацьбы супраць веры, калі знішчался наша гістарычная памяць». І ў гэты момант на экране з'явіўся надпіс «ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ЛУКОЙЛУ! НА ДАБРО РАСІІ».

Чамусьці пасля гэтакага пафаснага роліка тэлеканал пракрышцыю рэкламу нейкага піва, чым паставіў патрыярха Рускай праваслаўнай царквы ў шэраг банальных выканаўцаў рэкламных тэкстаў. Зразумела, што заказчыкі рэкламы маюць свой пагляд на прысутнасць святара на экране. «Мы наколькі магчыма дапамагаем адраджэнню цэркваў і манастыроў, вось патрыярх і палічыў магчымым павіншаваць нас», — патлумачыў прадстаўнік «ЛУКОЙЛа» Дзмітрый Даўгоў, дадаўшы, што ніхто з тых асобаў, якія здымаліся ў рэкламным роліку, не атрымаў ад яго кампаніі хоць які-небудзь ганарар. Такім чынам, патрыярх здымаўся ў рэкламе бясплатна! Са свайго боку прадстаўнік Маскоўскай патрыярхіі Віктар Малухін адзначыў, што ўдзел патрыярха Аляксея II у рэкламным роліку – адлюстраванне «натуральнай удзячнасці «ЛУКОЙЛу» за яго ную дапамогу.

Хоць сума гэтай дапамогі дасюль нідзе афіцыйна не апублікаваная, Малухін сказаў, што нафтавы гігант разам з «Газпромам» і міністэрствам шляхоў зносінаў ёсць буйнейшым спонсарам царквы. З якіх крыніцаў гэтыя спонсары бяруць грошы на маштабную падтрымку рэлігіі – таксама таямніца.

**Яўген ГАРЭЛІК**

МУЗЫКА

## Філарманічны фестываль

У Віцебску адкрыўся XIII міжнародны музычны фестываль імя Івана Салерцінскага. Філарманічнае свята арганізавана міністэрствам культуры, Беларускім саюзам музычных дзеячаў, Польскім інстытутам і Пецярбургскім фондам Д.Шастаковіча.

Акрамя канцэртных залаў, фестываль пройдзе пад зводамі касцёлаў – святой Варвары ў Віцебску, святога Антонія Падуанскага ў Паставах і Андрэеўскага касцёла ў гарадскім пасёлку Лынтупы. Канцэрты фестывалю пройдуць таксама ў Барані, Браславе, Глыбокім, Гарадку, Докшыцах, Лёзне і іншых гарадах. Нароўні з інструментальнай на фестывалі прадстаўлена вакальная музыка. Сярод зорак – кавалер Рыцарскага ордэна лірычных мастацтваў Францыі Нэлі Лі (сапрана), салісты Марыінскага тэатра оперы і балета Марыя Людзько (сапрана), Айталінс Адамава (меца-сапрана), Алена Ведзянеева (меца-сапрана), Дзмітрый Варапаеў (тэнар), Уладзіслаў Сулімскі (барытон), Мікалай Каменскі (бас). Польскую музычную школу прадставіць прафесар Кракаўскай акадэміі музыкі Анджэй Пікуль (фартэпіяна). Беларуская музыка прагучыць у выкананні ансамбля салістаў «Класік-авангард», народнага артыста краіны Ігара Алоўнікава (фартэпіяна), Алены Сало (сапрана) і іншых вядомых музыкантаў.

**Леанід СІМАНАЎ**

КІНО



У Мінску здымаецца фільм «Каханак» з Алегам Янкоўскім у галоўнай ролі. Рэжысёр Валерый Тадароўскі

# Мы паходзім ад іншай малпы

## *Наш продак паразумнеў дзякуючы плаванню*

*Як вядома, тэорыя Дарвіна палягае на меркаваннях, што мозг чалавека павялічваўся ў працэсе натуральнага адбору найбольш прыстасаваных да працы малпаў. На пачатку мінулага стагоддзя, калі гэтая тэорыя ўжо была агульнапрызнаная, неадноўчы праводзіліся даследаванні з мэтай акрэслення сувязі паміж вагой мозгу і разумовымі здольнасцямі людзей. Аднак усе яны не далі адназначных вынікаў – разумныя людзі сустракаліся як сярод уладальнікаў вельмі вялікага мозгу, так і вельмі малога. Тады гэта нікога не насцярожыла. А ўсё ж парадокс ёсць: як мог праходзіць натуральны адбор, калі навят істотная розніца ў вазе мозгу не дае перавагі ў розуме. Натуральны адбор магчымы толькі тады, калі навят невялікае змяненне станоўчай рысы (у дадзеным выпадку – вага мозгу) дае перавагу ў барацьбе за існаванне.*

Але гэта не адзіны парадокс. Згодна з Дарвіным, прастахаджэнне і рука чалавека ўдасканальваліся дзякуючы выкарыстанню прыладаў працы, аднак археалагічныя знаходкі сцвярджаюць адваротнае: найстаражытнейшым прыладам 7 мільёнаў гадоў, а адбіткі ступні аўстралапітэкаў, пакінутыя на вулканічным попеле, практычна нічым не адрозніваюцца ад нашых. Болей за тое, як кажуць самі антраполагі, такім чынам пачалі хадзіць яшчэ як мінімум за мільён гадоў да таго. Калі і гэтага мала, можна прывесці яшчэ адзін доказ: выкарыстанне прыладаў працы можа прынесці карысць толькі таму, хто імі добра валодае, а валодае імі толькі той, у каго дзеля гэтага добра прыстасаваны рукі. Атрымліваецца, што на прамежкавых этапах натуральнага адбору выкарыстанне прыладаў працы прыносіла толькі шкоду, і толькі калі рукі добра прыстасаваліся для трымання прыладаў, а ступні і таз – для таго, каб цвёрда стаяць на нагах, яно пачало прыносіць карысць. Але такое немагчыма *a priori*, і сучасныя малпы бліскуча пацвярджаюць гэта: яны карыстаюцца рознымі прыладамі толькі ў тых выпадках, калі гэта не можа быць небяспечным для іхнага існавання, а пры такім раскладзе натуральны адбор немагчымы. Дарэчы, гарылы ў прыродзе карыстаюцца прыладамі радзей, чым шымпанзе, аднак рука па сваёй будове ў іх бліжэй да рукі чалавека. Значыць, выкарыстанне прыладаў – не самы лепшы спосаб развіцця ручнасці.

Дык якім жа чынам продак чалавека мог стаць «прамахадзячым» і займець ручнасць, здольную трымаць прылады працы? Часткова на такое пытанне можа даць адказ тэорыя англійскага біёлага-акіянолага А.Хардзі, якая з'явілася адносна нядаўна – у 1960 годзе. Згодна з гэтай тэорыяй, продкамі чалавека былі малпы, якія жылі на ўзбярэжжах марскіх лагунаў і вялі напаўводны лад жыцця. Калі гэта так, то тлумачэнне простахаджэння прыйдзе само сабою, дастаткова зірнуць на малпаў-насачоў, якія водзяцца ў прыморскіх лясах Інданезіі. Ніякімі прыладамі яны не карыстаюцца, але падчас прыліваў пераходзяць ад дрэва да дрэва на дзвюх нагах, трымаючы рукі над вадой. Ногі ў іх даўжэйшыя ў параўнанні з нагамі іншых малпаў, ступні таксама больш вялікія.

Тлумачэнне развіцця ручнасці і мозгу ў Хардзі практычна нічым не розніцца ад «тэорыі ўплыву працы» – змяняецца толькі від дзейнасці, таму яго таксама нельга лічыць задавальняючым. А можа быць ручнасць і мозг развіваліся пад уплывам воднага ці напаўводнага «стылю» жыцця? Пальцы скараціліся, далонь стала шырэйшая, каб зручней было плыць. Вялікі палец павярнуўся, каб яшчэ болей павялічыць плошчу далоні. А каб пальцы трымаліся прыціснутымі адзін да аднаго, развіліся дробныя мышцы. Так што «чалавек умелы» прыйшоў ужо на ўсё гатовае.

Крыху болей складана злучыць з водным ладам жыцця павелічэнне мозгу, таму прыйдзецца звярнуцца яшчэ да адной гіпотэзы, якая з'явілася пры канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэта тэорыя польскага навукоўцы, спецыяліста ў галіне кібернетыкі К.Фіялкоўскага.

Фіялкоўскі падышоў да мозгу як да кібернетычнай сістэмы, пабудаванай з ненадзейных элементаў – нейронаў. Ён спасылаецца на тэорыю фон Неймана, згодна з якой надзейнасць кібернетычнай сістэмы, пабудаванай з ненадзейных элементаў, можа быць падвышана шляхам павелічэння колькасці элементаў і злучэнняў паміж імі. Фіялкоўскі мяркуе, што на працягу немалога часу асноўным спосабам здабывання ежы для нашых продкаў была простая пагоня за дабычай, што патрабавала напружання сілаў і суправаджалася пастаянным перагрэвам мозгу, што было вельмі шкодна, бо абцяжарвала дзеянне нейронаў. Больш прыстасаванымі ў такой сітуацыі аказаліся тыя, чый мозг меў большую колькасць нейронаў і сувязяў паміж імі – гэта значыць большую ступень надзейнасці. Такім чынам, паводле Фіялкоўскага, павелічэнне мозгу звязанае з адаптацыяй да цеплавога стрэсу.

Тое, што мозг чалавека быў вымушаны падвышаць сваю надзейнасць за кошт павелічэння колькасці элементаў, можна патлумачыць інакш. Пры водным спосабе жыцця часцяком прыходзіцца даваць ныраць і затрымліваць дыханне, каб злавіць дабычу ці выцягнуць яе на паверхню.

Затрымка дыхання прыводзіць да кіслароднага голаду, які мацней за ўсё адбіваецца на мозгу (у чалавека без дыхання праз 5-6 хвілін адбываецца выміранне клетак галаўнога мозгу). Больш шанцаў выжыць пры такім спосабе здабывання ежы мелі тыя, хто меў болей надзейны мозг – які складаўся з большай колькасці нейронаў. Такім чынам, павелічэнне аб'ёму мозгу ў продкаў чалавека было звязанае з адборам асобінаў, больш прыстасаваных да затрымак дыхання.

Гэтая гіпотэза здольная лёгка патлумачыць, чаму такі вялікі мозг у кітоў і дэльфінаў. Напрыклад, дэльфіны-афаліны, якіх можна параўнаць па памерах з чалавекам, маюць мозг вагой 1.700 г (у чалавека ў сярэднім 175 г), прычым ён утрымлівае ў 1,5 раза болей нервовых клетак і ў 2 разы болей звілінаў. Самы вялікі мозг – у кашалотаў, якія даюць ныра на глыбіню кіламетра і нават болей. Вельмі вялікі мозг у сланоў, што, відаць, звязана з тым, што сланы маюць агульнага продка з ламантынамі і дзюгонямі, якія вялі напаўводны лад жыцця.

Гіпотэза напаўводнага паходжання чалавека здольная растлумачыць самую сенсацыйную знаходку, якую зрабіў антраполаг Р.Лікі на возеры Рудольф у Кеніі, у пластах, датаваных 2,9 мільёна гадоў, вядомую як чэрап №1470. Аб'ём яго роўны 800 куб. см., у яго цалкам адсутнічае надвокавы валік, косці яго больш тонкія, вонкавы рэльеф згладжаны, гэта значыць прысутнічалі адзнакі, якія па ўсіх існуючых тэорыях павінны былі з'явіцца толькі на самым апошнім этапе эвалюцыі, са з'яўленнем выразнай мовы. Нават у неандэртальцаў, якія вымерлі 30 тысяч гадоў назад і зусім мала не дажылі да нас, надвокавы валік захоўваўся. Праўда, потым узрост знаходкі быў зніжаны да 1,9 мільёна гадоў, але, нават адкінуўшы мільён гадоў, антраполагі нічога не змаглі растлумачыць.

Аднак гіпотэза Фіялкоўскага можа даць такое тлумачэнне: надвокавы валік знік, згладзіўся вонкавы рэльеф і сталі лягчэйшымі косці, бо стварэлі дадатковае супраціўленне пры плаванні. Сам Лікі лічыць, што ад істоты 1.470 ідзе простая лінія да сучаснага чалавека, а ўсе ахантропы і палеантропы, якія дасюль лічыліся нашымі продкамі, — тупіковыя напрамкі эвалюцыі.

Наагул, возера Рудольф на працягу сваёй гісторыі шмат разоў разлівалася, затапляючы вялізныя тэрыторыі. Сярод водны прасторы маглі ўзнікаць выспы, і на іх заставаліся жыць гамініды, якія вялі напаўводны лад жыцця.

Ва ўсякім разе, гэтая тэорыя не пярэчыць тэорыі натуральнага адбору, якой пярэчыць якраз тэорыя вырашальнага «ўплыву працы» на малпу.

**Віктар КУКУРЫН**



У падводным свеце заўжды было болей небяспекі, чым на зямлі, таму наш продак і асвойваў сушу

СПОРТ

## Камусьці кошык «4», а камусьці група «Х»

На жараб'ёўцы адборачных групаў да чэмпіянату Еўропы па футболе 2004 года, які пройдзе ў Партугаліі, зборная Беларусі будзе размешчаная ў кошыку пад нумарам «4». Горшым мог быць толькі пяты кошык, у якім увогуле сабраныя адныя аўтсайдэры кшталту Мальты ці Андоры. Такое «пападанне» абумоўленае тым, што ў кошыку «сеюць», згодна з рэйтынгам, на працягу чатырох апошніх гадоў. А беларусы прыдатна выступалі толькі ў апошнім двухгадовым цыкле. Шанц трапіць прынамсі ў трэці кошык пры жараб'ёўцы да чэмпіянату свету 2006-га ў нас ёсць, але трэба вельмі добра згуляць у цяперашнім цыкле. Жараб'ёўка адбудзецца 25 студзеня.

. А пакуль што каля паўмільярда жыхароў планеты сачылі за правядзеннем іншай жараб'ёўкі – да чэмпіянату свету, што гэтым летам пройдзе ў Японіі і Карэі. Варта адзначыць невераготнае шанцаванне зборнай Расіі, якой у групу не трапіла ніводнага саперніка высокага рангу. Супраць расіянаў – Туніс, Японія і Бельгія.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**



Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1792 Нумар падпісаны ў друк 4/12/2001 (15:00) Наклад – 9.090